


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,*
*каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА

№ 39(49) ● 13—19 лістапада 1991 г. ● Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)


## Поступ тыдня

З АБМЕРКАВАННЯ ПРАЕКТА НОВАЙ КАНСТЫТУЦЫІ РЭСПУБЛІКІ АДНАВІЛА РАБОТУ СЕМАЯ СЕСІЯ БЕЛАРУСКАГА ПАРЛАМЕНТА. Дэбаты паказалі, што праект не выклікае рэзкіх разыходжанняў у меркаваннях дэпутатаў, як было пры разглядзе іншых дакументаў. Ці не зацішша гэта перад бурай?

*ПАДПІСАНЫ ПАГАДНЕННЕ АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ ПАМІЖ НАШАЙ РЭСПУБЛІКАЙ І КЫРГЫЗСТАНАМ, А ТАКСАМА УСЕАБДЫМНЫ ДАГАВОР З УЗБЕКІСТАНАМ. Адначасова з гэтым усё мацнеюць галасы з Масквы: каму трэба такая самадзейнасць? Без моцнага Цэнтра, маўляў, не пражыць...*

АДНАВІЛІ ПІКЕТАВАННЕ ДОМА ЎРАДА БЕЛАРУСКІЯ АДВАКАТЫ.

ПРАФСАЮЗЫ АЎТАСЕЛЬГАСМАША І РАДЫЁЭЛЕКТРОННАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ ВЫСТУПІЛІ З ЗАЯВАЙ У СУВЯЗІ З ЧАРГОВЫМ ЭТАПАМ ПАВЫШЭННЯ ЦЭН. Яны папярэдзілі Вярхоўны Савет і ўрад рэспублікі аб магчымасці яшчэ аднаго сацыяльнага ўзрыву, калі не будуць прыняты меры па абароне правоў працоўных.

*У ШТАБ-КВАТЭРЫ ААН УРАЧЫСТА АДЗНАЧАНА СТАГОДДЗЕ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА.*

РЫХТУЕЦЦА ДА РЭГІСТРАЦЫІ ПРЫ МЕНГАРВЫКАНКАМЕ ЯШЧЭ АДНО ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ — «ЧЫРВОНЫ ЖОНД». Гэта маладзёжная суполка, якая змагаецца за нацыянальнае адраджэнне беларускага народа і аб'яднанне намаганняў з «Выбранецкімі шыхтамі», Задзіночаннем студэнтаў Беларусі і іншымі арганізацыямі.

*Вучымся!*

## Урок іспанскай мовы



Еду ў Дуброўскую школу да настаўніка іспанскай мовы Міколы Бусла. Такога не толькі на Светлагоршчыне, але і па ўсёй Беларусі трэба пашукаць. Замежную мову Мікола Клімавіч выкладае... па-беларуску. Гэта, калі мець на ўвазе аснову, ад якой скіроўваюць Дуброўскія вучні ў падарожжа да таямніц мовы Сервантэса. Такое і ў ВНУ ці сустрэнеш?..

Пытаюся дазволу наведаць урок. У адказ лаканічнае:

— Калі ласка, ніякіх праблем.

Займаю месца за вольнай партай. Не спяшаюся шчоўкаць затворам фотаапарата. Уважліва назіраю за тварамі хлопчыкаў і дзяўчынак, імкнуся ўгледзець тую кроплю святла, што яднае настаўніка і вучняў. А ў пакой настойліва сягаюць праменьчыкі восеньскага сонейка. Быццам светлячок ліхтара, яны дапамагаюць мне заўважыць на вучнёўскіх партах аднолькавыя сшыткі-слоўнічкі. У іх — беларускія словы з іх іспанскімі найменнямі. Дарэчы, сам Мікола Бусел — аўтар ёмістага іспанска-беларускага слоўніка. На жаль, пакуль што праца, гэтак неабходная і вучням, і навукоўцам самых розных накірункаў, існуе толькі ў рукапісе. Праўда, да разгляду слоўніка павінны прыступіць у выдавецтве БелСЭ. Толькі не падвялі б наша ўсеагульная марудлівасць і папяровы дэфіцыт.

У незвычайнага настаўніка і незвычайныя вучні. Актыўныя, рухавыя, з творчым агеньчыкам у вачах. І як хораша, прыемна побач з іспанскай мовай гучыць наша родная беларуская... Уявіце сабе, што ўсе настаўнікі — «замежнікі» і матэматыкі, фізкультурнікі і біёлагі... ідуць на свае ўрокі з гэткім жа клопатам пра беларускае слова, як і Мікола Клімавіч Бусел. Якімі мы тады багатымі на духоўнасць, чалавечую шчырасць сталі б!

Міхась ХАМЕЦ.

На здымках: 1. На ўроку іспанскай мовы ў Дуброўскай сярэдняй школе Светлагорскага раёна. 2. Дзяўчынкі-шасцікласніцы Наташа Бусел і Марына Аніскавец.

Фота аўтара.



*На прэс-канферэнцыі*

## «Другім шляхам ісці нельга»

Якіхсьці паўгода назад і ўявіць было цяжка, што на прэс-канферэнцыю з камандуючым Беларускай ваеннай акругі генерал-палкоўнікам Кастэнкам Анатолем Іванавічам запросяць журналіста ад газеты «Навіны» БНФ. Сёння часы змяніліся. Для Валерыя Сядова такое запрашэнне стала рэальнасцю. Ён прыняў удзел у сустрэчы з камандуючым і задаў яму сваё пытанне: «Спадар генерал, хто Вы цяпер, каму Вы служыце?»

З напружаным і заклапочаным тварам генерал растлумачыў прысутным, што пакуль існуюць «Цэнтр» і адзіныя Узброеныя Сілы, ён падначальваецца Міністэрству Абароны і статутам Савецкай Арміі, якія ніхто не адмяняў. І, дарэчы, Рэспубліка Беларусь за адзіныя Узброеныя Сілы, дадаў генерал на заканчэнне.

«Клопатам» пра Беларусь была прасякнута ўся гаворка на прэс-канферэнцыі. Праўда, розныя адценні меў гэты клопат. Вось, напрыклад, як ён прагучаў у пытанні маскоўскага карэспандэнта газеты «Советский патриот» Станіслава Аслёзава: «Ці не тыя становяцца дэзерцірамі, хто знаходзіцца пад уплывам БНФ, хто з захапленнем уздымае бел-ружовы сцяг (?), ідэю беларускага войска?»

Здзівіла пытанне і карэспандэнта «Торговой газеты» Суслава: «Таварыш генерал, а ці не лічыце Вы шкодным і памылковым сам лозунг суверэнізацыі?»

Адказ камандуючага быў адназначным: «Што да суверэнізацыі, я думаю, што мы прыйшлі да тае мяжы, калі далей ужо другім шляхам ісці нельга... праўда, трэба быць уважлівым, каб не нарабіць паспешлівых крокаў».

На прэс-канферэнцыі генерал Кастэнка выказаў свае погляды на ідэю стварэння нацыянальнай гвардыі: такая гвардыя можа быць, — каб служыць у ахове Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Але яна будзе нешматлікай, хутчэй сімвалічнай структурай, чым баявой адзінкай. Што да нацыянальнага войска, то Беларусі яно зараз непатрэбна.

А вось што думае генерал пра беларусізацыю ваеннай акругі: сёння ў рэспубліцы служаць прадстаўнікі 80-ці нацыянальнасцей, і ўсіх іх патрэбна ўважыць. Газеты для вайскоўцаў выпісваюцца на мовах розных народаў, сталі традыцыйнымі ў калектывах дні нацыянальнай кухні. Па свайму складу акруга не з'яўляецца беларускай. На дзяржаўнай мове генерал Кастэнка гаворыць саромецца, бо слаба ёю валодае. Аднак калі будзе пастаўлена такая задача, каб гаварыць у Арміі па-беларуску, то, канешне ж, цяжкасцей з яе выкананнем не будзе.

Але хто ж паставіць перад самім камандуючым БВА такую задачу? Мабыць, Анатоль Іванавіч сам, без прынукі, павінен загаварыць на дзяржаўнай мове.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

*Ліст з Урала: «На «Наша слова» на 1992 год я падпісаўся. Лічу, што гэта павінен зрабіць кожны свядомы беларус!»*

Стар. 3

Мікракамунізм для сябе.

Стар. 3

*Скажы мне, хто я, і мне стане зразумела, хто ты.*

Стар. 4

*«Я гляджу, як дачка-пяцікласніца выводзіць у сшытку па беларускай мове: «Абяцанне даю крочыць светлаю дарогай, па якой да камунізму ідзе народ»,— і мне становіцца балюча-сорамна, прыкра і роспачна».*

Стар. 2

*Данута*

*БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА*

* * *

*Кожны самотна пройдзе свой лёс*
*па вадзе, як Ісус Хрыстос.*
*З птахамі ўпрочкі не паляціш.*
*Мусіш цярпліва несці свой крыж.*
*Шлях у нябёсы канчаецца тут...*
*Трэба адно зразумець:*
*хто паняверыць разбзроены люд,*
*гэткіх не вызваліць смерць.*
*Прайды не ведаў, вядомай здавён,*
*хто прадаваў родны край:*
*тут, на зямлі, бессмяроцце і сон,*
*тут, на Радзіме, адхланне і рай.*

*Любоў ЛАМЕКА*

# *Даруй, Максіме...*

*Мо яны, Беларусь, панясліся*
*За тваімі дзяцьмі уздагон,*
*Што забылі цябе, адракліся,*
*Прадалі і аддалі ў палон?..*

Пагоня. М. Багдановіч.

## *(Неюбілейнае слова)*

**Трывожны роздум над вучнёўскімі сшыткамі дачкі-пяцікласніцы.**

САМЫ ЧАС СПАВЯДАЦЦА, прасіць адпушчэння грахоў, каяцца. Самы час... Дзень твайго веку, Максіме, набліжаецца, а ў сэрцы замест святочнага настрою расце трывога. З чым мы ідзём насустрач твайму светламу Дню, пяшчотны сын беларускае зямлі, прарок Айчыны, горды моцны птах? Што зрабілі, каб узышла твая надзея «залацістым ясным днём» Беларусі? Каб збудзілася жыццёвая сіла зернейкаў красы і праўды, рухнулі межы зла?..

Я гляджу, як дачка-пяцікласніца выводзіць у сшытку па беларускай мове: «Абяцанне даю крочыць светлаю дарогай, па якой да камунізму ідзе народ»,— і мне становіцца балюча-сорамна, прыкра і роспачна, што не магу ўратаваць сваё дзіця ад духоўнага абалваньвання, якое праводзіць сучасная школа. Гартаю старонкі і не знаходжу ніводнага твайго ці роўнага твайму, Максіме, Слова, Думкі, Вобраза. У год мастацтва, красы, год твайго юбілею!

Але затое ўпэўнена крочыць юбілей іншы: «Рэвалюцыя прыйшла — людзям шчасце прынясла» (за 17 кастрычніка гэтага года!); «Уладзімір Ільіч заўсёды многа працаваў. І ў ссылку і ў турму яму прысылалі шмат кніг. Мы здзіўляемся, калі ён толькі паспяваў іх прачытваць» (вось бы вязням ГУЛАГа такое!)...

А раней (за 8 кастрычніка) — у тым жа духу: «Турысты — сябры прыроды». Ці не тыя, што здратавалі тваё «зачараванае царства», Максіме, якое высніў ты ў летуценных снах аб Беларусі?..

Божа праведны! Чаму нашым дзецям угатавана ТАКОЕ і сёння?! Яны ж ужо ведаюць пра ГУЛАГ, сацыялізм-камунізм «з чалавечым тварам», «розум, гонар і сумленне эпохі!» Іх светлыя галоўкі адрынулі чорныя здані мінулага, іх чыстыя сэрцы настроены на хвалю высокай красы. Але хто дапаможа ім спасцігнуць твой духоўны подзвіг, Максіме, тваё Слова ў імя Чалавека, Народа, Вечнасці? Хто?..

Няўжо так і будзем, як і раней, саматужна па хатах займацца адукацыяй, вучыць родную беларускую мову, выхоўваць нацыянальную свядомасць?

Але навошта тады нам такая школа, у якой не гучыць родная мова, не спавядаецца родная гісторыя, культура? Школа з адзіным сёння лозунгам: «Грошай!» Але за што плаціць? Мо за тое, што ніводнага слова не ўчула яшчэ школьніца-пяцікласніца пра Грунвальд, Пагоню, Каліноўскага, затое «блокамі» заганяюцца па-ранейшаму ў мозг «Россия при крепостнических порядках», «Россия при капиталистических порядках», «Великая Октябрьская социалистическая революция и гражданская война», «Рассказы о строительстве социализма» і яго перамозе ў СССР, апо-вяды пра КПСС, якая «ведёт нас по ленинскому пути»!..

Навошта даваць у рукі дзецям такія падручнікі па гісторыі? Гэта ж амаральнасць, двурушніцтва, здзек!

НЯЎЖО ТАКІ НІЗКІ духоўны, інтэлектуальны ўзровень нашага настаўніцтва (даруйце тыя, чый ясны розум асвятляе нашым дзецям шлях у Краіну Ведаў), што яны самі не разумеюць гэтага? А калі разумеюць, то чаму маўчаць, не пратэстуюць супраць абалваньвання, дрымучага бяспамяцтва, лакейска-халуйскага пакланення чужым святыням?..

Моцна стаіць пакуль што апусцелая ЦЫТАДЭЛЬ па вуліцы Карла Маркса ў Менску, папераджальна-злосна глядзіць у свет вокнамі-партрэтамі правадыра, а побач, Максіме, шмат гадоў задыхаўся без кіслароду (0,62 $м^2$ на адну паэтычную студэнцка-выкладчыцкую душу!) філфак БДУ! Так доўга насіў па ўсіх высокіх інстанцыях прашэнні з сотнямі подпісаў студэнтаў і выкладчыкаў і ўсюды натыкаўся на глухую сцяну...

Цяжка пакуль, Максіме, у «Краінебраначцы» твайму Слову, Нашаму Слову. Горкі сімвал таго — адзін на ўсю рэдакцыю (НА ЎСЮ БЕЛАРУСЬ!) пакойчык газеты «Наша слова», адкуль мо даляціць да цябе мая журботная споведзь.

Няўтульна яму на небеларускім універсітэцкім журфаку, начальства якога «злітавалася» і выдзеліла на ЎСЮ беларускую літаратуру адзін з дзесяці навучальных семестраў! Якраз напярэдадні твайго юбілею, у час беларусізацыі, нацыянальнага Адраджэння. Да гэтага не дадумаліся нават у застойныя часы. Такіх семестраў, у якіх вывучалася беларуская літаратура, пачынаючы ад старажытнай і да сучаснай уключна, было шэсць!

Так што не пазайздросціш журфакаўскім таленавітым беларускім хлопцам і дзяўчатам, Максіме, затое раскашуюць тут рахленкі, якія не саромеюцца публічна, на ўсю аўдыторыю заявіць: «Короткевич? А-а-а. Читал. Что-то про дуб. А вообще, мне неприятно разговаривать на этой вашей белорусской мове!»

Гурты рэдактараў-манкуртаў растуць, Максіме, і ўтульнае месцейка ім ужо прыгатавана. Але ці будзе дзе працаваць таленавітай беларускай моладзі? Такі сорам, такая ганьба перад тваім юбілеем — адзіная штодзённая рэспубліканская беларускамоўная газета на УСЮ незалежную суверэнную Рэспубліку Беларусь...

ЖЫВУ на вуліцы Кнорына, праціўніка ўсяго беларускага, хаджу па вуліцах «граміл, няздар, баязліўцаў», на якіх не гучыць родная беларуская мова (а ці можа яна гучаць на ТАКІХ вуліцах?) і вельмі смуткую, што няма ў нас пакуль праспектаў, вуліц і плошчаў, названых тваім чыстым і светлым іменем, Максіме, імёнамі тваіх духоўных папярэднікаў і наступнікаў. Колькі яшчэ спатрэбіцца часу, каб выраслі, узвысіліся мы, беларусы, да Вашага духоўнага подзвігу, каб ачысцілі крыніцы, каб пачуліся НАРОДАМ пад мужна адваяванымі ў бяспамяцтва бел-чырвона-белым сцягам і Пагоняю?..

Якая невыносная марудлівасць ва ўсім, якая зацятая духоўная лянота, якая злачынная абыякавасць... А час ляціць, знікаюць апошнія зоркі на тваім небасхіле, Максіме. Вось ужо і Зоська Верас, адзіная ластаўка з твайго выраю, якая рабіла вясну, пайшла ў вечнасць. Мы застаемся. Кім?..

Я ведаю, я пэўна ведаю, што будзе вялікае свята ў твой гонар, Максіме. З цымбаламі, народнымі песнямі, скокамі, святочнымі кірмашамі, дэфіцытнымі білетамі на ўрачысты вечар. Будуць кветкі ля помніка, публікацыі ў друку, лекцыі, навукова-практычныя канферэнцыі...

Толькі я баюся, Максіме, каб (які ўжо раз!) яно не стала прыгожай мыльнай бурбалкай, ад якой застаецца адно толькі — слата.

Я баюся, што на твае магутныя паэтычныя крылы, Страцім-лебедзь, уссядзецца ўсялякае дробнае птаства і цяжка будзе прабіцца твайму Слову.

Я толькі вельмі баюся, што мала будзе тых, хто ў Дзень твайго веку запаліць свечку на покуце сваёй душы, укленчыць прад тваёй высокай красою і, як малітву, выдыхне: «Даруй, Максіме...»

*Віншуем з юбілеем!*

18 лістапада спаўняецца 60 гадоў вядомаму беларускаму паэту, публіцысту і грамадскаму дзеячу Анатолю Вярцінскаму.

Першыя вершы Анатоля Вярцінскага з'явіліся ў рэспубліканскім друку ў 1954 годзе. Яны адразу засведчылі, што ў беларускую літаратуру ідзе таленавіты паэт. Хочацца нагадаць кніжкі, якія прынеслі шырокую вядомасць паэту: «Песня пра хлеб», «Тры цішыні», «Чалавечы знак», «З'яўленне», «Час першых зорак», «Ветрана». За кнігу публіцыстыкі «Нью-йоркская сірэна» Анатоль Вярцінскі ў 1988 годзе атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі.

Імя Анатоля Вярцінскага цесна звязана з нацыянальным Адраджэннем. Дзякуючы Вярцінскаму, як галоўнаму рэдактару, у канцы 80-х гадоў набыла новае дыханне газета «Літаратура і мастацтва». І хоць паэт, як народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, ужо другі год працуе ў Вярхоўным Савеце, але і сёння шматлікія чытачы штотыднёвіка называюць «ЛіМ» газетай Вярцінскага.

Віншуем Анатоля Ільіча Вярцінскага з юбілеем і жадаем яму і надалей добрага здароўя, творчага неспакою, плёну і невычэрпнасці сіл у барацьбе за адраджэнне Беларусі.

*Анатоль ВЯРЦІНСКІ*

## Высокае неба ідэала

Высокае неба ідэала!
Мая душа чалавечая спала,
вякамі спала да той пары,
пакуль не ўбачыў цябе ўгары,
пакуль нада мною ты не заззяла,—
высокае неба ідэала!
Калі адкрыў я цябе аднойчы,
убачыў сябе з тваёй вышыні,—
сталі іншымі мае ночы,
сталі іншымі мае дні.
Ты новым сэнсам іх асвятляла,
высокае неба ідэала!
Ты мне дало другое дыханне,
дало мне дарогу і сяброў.
І толькі так, як хвалюе каханне,
ты хвалявала маю кроў.
Ты мяне вабіла і звала,
высокае неба ідэала.
Хмурэў —
ты ўсмешку мне вяртала.
Звярэў —
ты мудрасць мне вяртала.
Хварэў —
ты сілы мне вяртала.
Старэў —
ты свежасць мне вяртала,—
высокае неба ідэала!
Ты мяне вабіла і звала.
Парой здавалася явай такой,
да якой падаць рукой,—
высокае неба ідэала.
Руку цягнуў я да цябе,
як цягнуць рукі у мальбе,
але рукі той было мала,
высокае неба ідэала.
Відаць, кароткаю рукой
быў ад прыроды я надзелены,
і траціў часам я надзеі,
і траціў часам я спакой.
Ды зноў мяне ты уздымала,
высокае неба ідэала.
Зноў уздымала і вяло,
зноў хвалявала, бунтавала,
давала сілы і святло,
усяму нізкаму назло,—
высокае неба ідэала.
Ты шмат ахвяраў патрабавала.
Калі я падаў у барацьбе,
я ў зрэнках адбіваў цябе.
І ты ў халодных зрэнках ззяла,
высокае неба ідэала.

* * *

Маўчанне бывае рознае.
Адны маўчаць таму,
што вельмі асцярожныя,—
баяцца розных табу.
Маўчанне бывае рознае.
Маўчаць занадта цвярозыя.
Скептыкі маўчаць:
«Ну што карысці крычаць?»
Маўчаць і абыякавыя —
твары масляна-лакавыя.
Што ім да таго,
да болю майго і твайго!
Ёсць маўчуны — аматары
смеласці чужой.
Развесяць свае лакатары:
«Ой, як цікава, ой!»
Маўчанне бывае рознае.
Яшчэ ёсць маўчанне грознае.
Маўчыць чалавек, трывае,
маўчыць, як і побач маўчаць.
І раптам рашуча зрывае
з вуснаў сваіх пячаць.
І раптам сябе ўзрывае:
«Я больш не магу маўчаць!» —
і, скажа такое адчайнае...
Калі ўжо і маўчаць —
дык я за такое маўчанне.

*У свеце слоў*

# ВЫСТУПАЮЧЫ, ВЫСТУПОВЕЦ, ВЫСТУПАЛЬНІК

Унармаванае, уніфікаванае і кадыфікаванае слова «прамоўца» пачало пастулова, але няўхільна ўступаць сваё месца такім словам, як «выступаючы», «выступовец», «выступальнік». Гэта заканамерна, бо лексічная адзінка «прамоўца» знаходзіцца, як паказвае «Слоўнік сінонімаў...» М. Клышкі (Мн., 1976), у адным шэрагу са словамі «аратар», «красамоўца». Зразумела, што красамоўца-аратар — гэта не той, хто выступае ў спрэчках, з'яўляецца садакладчыкам ці проста кідае рэплікі ў залу або бестактоўна перабівае чыю-небудзь прамову, гаворку, усялякую «гавэнду»... Такіх асякаюць выслоўямі тыпу: «не выступай!», «не ўзнікай!» (апошняе — адэкват рускаму «не возникай!») і інш. Таму і спатрэбіліся словы «выступаючы», «выступовец», «выступальнік»... Хоць яны аднакаранёвыя, але больш беларускае, на наш погляд, апошняе.

Ці мае права на існаванне слова «выступаючы» са значэннем «той, хто выступае» (з паведамленнем, у спрэчках паводле дакладу, з месца)? Гэта калька з рускага наймення «выступающий» (такіх дзеепрыметнікаў, прыметнікаў і назоўнікаў у нашай літаратурнай мове замацавалася ўжо нямала: «адпачываючы» (той, які адпачывае), «гаворачы» (той, хто гаворыць), «вядучы» (канферансье) і г. д. Зразумела, прыхільнікам рускай мовы яно не рэжа ні слых ні дых. Ды ёсць жа і аманімічнае дзеепрыслоўе, якое паходзіць з дзеепрыметніка, што паўнапраўна ўжываўся яшчэ ў агульнаўсходнеславянскай мове. Слова «выступовец» той жа самай словаўтваральнай мадэлі, як і словы «службовец», «вайсковец», «махновец», «балаховец», яно блізкае, нават анамічнае польскаму wystę-pować (выступаць) у беларускім вымаўленні абмежавана гутарковай мовай.

Найменне «выступальнік» мае права на існаванне і пашырэнне ва ўсіх стылях сучаснай беларускай літаратурнай мовы, як і «апавядальнік» (з «апавядаць»), «выключальнік» (з «выключаць»), «выхавальнік» (з «выхаваць»).

Мікола АБАБУРКА.
г. Магілёў.

*Чыталі?*

# «НАША НІВА»

**Выйшаў чарговы нумар (№ 3) «Нашай Нівы». Ён адкрываецца новым апавяданнем Вячаслава Адамчыка «Вазьмі крыж свой...». Пад рубрыкай «Гісторыя суб'екта» друкуецца раздзел з кнігі «Невядомая вайна» Генадзя Сагановіча (выдавецтва «Беларусь» абяцае ў 1992 годзе выдаць гэтую кнігу).**

Да юбілею Максіма Багдановіча — ён пераважна друкаваў свае новыя творы ў «Нашай Ніве» — змешчаны фрагменты хрэстаматыйнай працы Антона Луцкевіча — публічнай лекцыі 1927 года «Праблемы красы й мастацтва ў творах Максіма Багдановіча».

«...Дзяўчо падзякуе й пойдзе, цешачыся ад усведамлення значнасці свае місіі. Ёй будзе няўцям, што, калі Беларусь сапраўды стане Беларуссю, ніхто й не падумае прыходзіць на паэтавы магілы не з кветкамі, а з рыдлёўкай» — гэта адзін з фрагментаў роздуму Уладзіміра Арлова, які ён назваў «Старыя Лівадзійскія могілкі».

З цікавасцю чытаюцца «Лісты пра сучасную літаратуру» Францішка Эн. Чытач зверне сваю ўвагу і на роспавяд Сцяпана Дуж-Душэўскага «Няма праблемы палякаў, ёсць праблема бальшавікоў», з якога зможа даведацца пра палітычную сітуацыю ў Віленскім краі.

У раздзеле «Аб усім патроху» змешчана прыемная для беларусаў навіна: «З трэцяга верасня маленькая вулка ў Новай Вільні, якая раней насіла імя Чарняхоўскага, носіць імя Янкі Купалы. Вуліца Кутузава, таксама ў гэтым раёне, стала называцца імем А. Пашкевіч-Цёткі. Цётка, як вядома, працавала ў свой час у тутэйшай бальніцы, а што да Купалы, дык ці бываў ён калі ў Новай Вільні — невядома».

З літаратурных твораў друкуюцца абразкі Фрыдэберта Тугласа і вершы Адама Глобуса. Дарэчы, з гэтым нумарам газеты сталыя падпісчыкі «НН» атрымаюць бясплатна зборнік вершаў Таццяны Сапач «Восень».

Пра астатнія матэрыялы «Нашай Нівы» вы зможаце даведацца, набыўшы свежы нумар газеты, які, дарэчы, не залежваецца ў кіёсках.

В. Ш.

# «ХАЧУ, КАБ СЫН МОЙ СТАЎ БЕЛАРУСАМ»

*Гэты ліст, што мы прапануем увазе чытачоў, напісаны па-расійску. Палічылі вартым перакласці яго і надрукаваць.*

Прабачце, што пішу па-расійску. Але ж аб усім па парадку. Жыву я на Урале, у горадзе Міясы. Мне 28 гадоў. Маці — руская. Бацька — беларус, родам з вёскі Мурачоўшчына былога Прапойскага раёна. Выехаў бацька з Беларусі з усёй сям'ёй у 1940 годзе. Так і патрапілі на Паўднёвы Урал.

Выхоўвала мяне бабуля. Размаўляла яна на беларускай мове. У 1969 годзе бабуля памерла. А праз некалькі гадоў загінуў бацька. Як прыйшоў час афармляць пашпарт, я назваўся беларусам. А вось запісалі чамусьці рускім. Такое ўвогуле ў нас практыкуецца. Пішуць, не пытаючыся, па нацыянальнасці аднаго з бацькоў.

Памятным у маёй свядомасці стаў 1988 год, калі давялося набыць радыёпрыёмнік. Пачаў слухаць «Свабоду», «Голас Амерыкі». На адной з радыёхваль пачуў беларускую гаворку. Адразу на памяць прыйшла бабуля, яе мова. Раней жа беларускае слова чуў, слухаючы песні ў выкананні «Песняроў». Ды неяк усё гэта праходзіла безуважна. А тут раптам мова зачапіла, быццам зварухнула нешта ў душы. З таго часу стараюся не прапусціць ніводнага беларускага выпуска перадачы «Свабода». Так упершыню пачуў цудоўныя вершы Наталлі Арсеньевай і Алеся Салаўя. З гістарычных агляду Язэпа Барэйкі даведаўся, якая несправядлівая лухта выдавалася за праўду ў школах па гісторыі СССР у адносінах да Беларусі. А рэпартажы з Менска, падрыхтаваныя Вітаўтам Мартыненкам і Галінай Айзенштат, дапамагалі ўявіць, што ж робіцца зараз у маёй радзімай старонцы.

На 1990 год я падпісаўся на беларускую перыёдыку: «Вожык», «Работніцу і сялянку». Ды толькі «Вожык» падаўся мне «бяззубым», а «Сялянка» — звычайным пракамуністычным часопісам. Асабліва абразіла мяне публікацыя ленінскіх лістоў да маці. Няўжо не маем мы выдатных беларусаў?

У 1991 годзе (з-за спазнення каталогаў) выпісаў толькі з другой паловы «Маладосць», «Крыніцу», «Вясёлку», «Наша слова». З першага ж нумара зразумеў, што газета — якраз для мяне. Што «Наша слова» — газета аднадумцаў, што хвараюць за родную мову, за нацыю, за культуру беларусаў. Справа, якую вы робіце, вельмі карысная і неабходная для ўсяго нашага народа.

Я лічу сябе беларусам. Хаця, пагадзіцеся, для ўсведамлення гэтага мала толькі слухаць «Свабоду» і чытаць беларускую перыёдыку. І, канешне ж, я вельмі хацеў бы ўдзельнічаць у агульнай беларускай справе. Дзеля таго і спрабаваў запаліць нейкі агеньчык цікаўнасці ў братоў майго бацькі. Расказваў ім пра Беларусь, паказваў беларускія часопісы, газету «Наша слова». Дарэмна!..

На маім заводзе працуе 20 беларусаў. Ізноў жа — адсутнасць усялякай цікаўнасці да роднай гісторыі, да культуры Беларусі, да роднага слова. Пра радзіму згадваюць толькі, што, маўляў, у Менску каўбаса ёсць.

Хацеў вам напісаць свой ліст па-беларуску. Ды сапраўдная бяда — баюся, бо не ведаю правапісу. Прашу вашай дапамогі! Дашліце, калі ласка, мне слоўнікі, падручнікі. Грошы я вышлю.

На «Наша слова» на 1992 год я падпісаўся. Лічу, што гэта павінен зрабіць кожны свядомы беларус!

Што мяне асабліва здзіўляе, што раніцы маю душу? Абвясціўшы мову дзяржаўнай, дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь гавораць па-расійску. Калі ж ужо і там нешта пераменіцца?

Здзіўляе і той факт, што беларуская радыёпраграмы, выходзячы да ўсесаюзнага слухача, запоўнены рускамоўнымі песнямі. А дзе ж нашы, беларускія?..

Хвалюе мяне і закон аб грамадзянстве. Хачу стаць грамадзянінам Рэспублікі Беларусь. Хачу, каб сын мой вучыўся ў беларускай школе і служыў у беларускім войску. Мяне не палохае Чарнобыль. І на Урале сказваецца на людзях забруджанасць радыенуклідамі (ад аварыі 1957 і 1968 гадоў). А людзі ў нас такія ж цярплівыя, маўклівыя, як на Беларусі. Таму маўчаць і паціху паміраюць.

Не памерці б і нам, беларусам,— ад духоўнага Чарнобылю!

**Радзівон ТУРКОЎ,**
г. Міяс Чэлябінскай вобл.



# Беларус з Аўстраліі

**У кастрычніку Рэспубліку Беларусь наведаў старшыня Федэральнай Рады беларускіх арганізацый Аўстраліі Яўген Груша. Нарадзіўся ён у вёсцы Морач Клецкага раёна Менскай вобласці. У Аўстраліі з 1949 года. Трапіў туды з Нямеччыны разам з маці і трыма братамі (бацька загінуў яшчэ ў Беларусі). Беларускую школу пачаў наведваць у беларускім лагеры Мітэнвальд у Нямеччыне. Скончыў сем класаў. Належаў да арганізацыі беларускіх скаўтаў. У Аўстраліі вучыцца далей не было магчымасці. У 15 гадоў давялося ісці працаваць. Вучыў англійскую мову, але ніколі не забываў сваёй роднай, беларускай. Навучыў гаварыць на ёй і сваіх сыноў.**

**У Менску спадар Яўген быў госцем рэдакцыі «Наша слова» і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Ён паведаміў, што прывёз 40 тысяч аднаразовых шпрыцоў, 2 тысячы камплектаў для пералівання крыві, 50 кілаграмаў шакаладу і іншае медыцынскае абсталяванне для Гомельскай абласной бальніцы. Гэта дабрачынны дар усіх беларусаў Аўстраліі пацярпелым ад чарнобыльскай катастрофы. Яўген Груша збіраўся наведаць суполкі Таварыства беларускай мовы ў іншых гарадах рэспублікі, у прыватнасці, у горадзе Салігорску. Пажадаем яму добрых уражанняў ад наведвання Бацькаўшчыны, якога давялося чакаць столькі гадоў.**

**Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**



НА ЗДЫМКУ: у мястэчку Ракаве.
Фота І. ЮДАША (БЕЛТА).

# І ТУРКМЕН ЧЫТАЕ... ПА-БЕЛАРУСКУ

У той час, як беларусы з Радашковічаў С. Белы, М. Ліннік і Г. Пустаход заклікаюць да выхаду з ТБМ, усё новыя і новыя людзі гуртуюцца вакол ідэі адраджэння роднай мовы.

Вось і ў Барысаўскім ваенным гарадку створана суполка ТБМ імя Ф. Скарыны. Узначаліў яе Міхась Варанец. І, канешне ж, першы клопат, за які ўзяліся тэбээмаўцы ў вайсковых мундзірах, падпіска на беларускую перыёдыку.

У 1992 годзе афіцэры з Барысава будуць чытаць многія выданні, у тым ліку і «Наша слова». Сярод падпісчыкаў і актыўны ўдзельнік стварэння Беларускага згуртавання вайскоўцаў, сябра суполкі ТБМ туркмен маёр Курбан Гельдыеў.

**А. КУТ.**

# Калі б не было БНР...

*Пры абмеркаванні свят на сесіі Вярхоўнага Савета пачуў такое выступленне «народнага» дэпутата (прозвішча не запамятаў), якога нават і не чакаў.*

*Мяне не здзівіла тое, што ён не ведае беларускай мовы, — мабыць, такіх там большасць. Не здзівіла і тое яго прызнанне, што не чуў пра падзеі 25 сакавіка 1918 года на Беларусі. Але здзівіла тое, што ён нават не можа зразумець, чаму не чуў пра гэтую дату. Ці такая абмежаванасць з'яўляецца эталоннай для камуністычнай большасці? І тады нам, простым грамадзянам, няма чаго добрага чакаць ад цяперашняга беларускага парламента!*

*Паколькі прыпынена дзейнасць КПСС, то было б лагічна прыпыніць дзейнасць і тых дэпутатаў, якія падтрымлівалі кампартыйныя камітэты ў Саветах усіх узроўняў. Тады б і праца ў розных напрамках па вырашванні нашай Бацькаўшчыны пайшла б шпарчэй.*

*Скарыстаўшы даверлівасць народа, КПСС запаланіла і наш край. Гэта яна стварыла агромністую многаступеньчатую адміністрацыю, яна запрыгоніла народ, яна спачатку знішчыла інтэлігенцыю і самае працавітае сялянства, а затым, разбурыўшы сельскую гаспадарку і наогул эканоміку, давяла цяпер да таго, што атручана ўсё, — і зямля, і вада, і само паветра, — дыхаць няма чым! Адабраўшы родную мову, пакалечыла народ духоўна. Наўрад ці хопіць у яе сілы перабудавацца, бо вельмі ж вабіць той, створаны для сябе «мікракамунізм», і можна ў любы зручны момант чакаць чарговага яе «выхаду» з «акопаў», а пакуль, прыстасоўваючыся да рынку, яна прысвойвае сабе дзяржаўныя сродкі, а гэта ж заробленае народам!*

*А наконт свята Незалежнасці, то на маю думку, гэтым днём варта лічыць 25 сакавіка. Бо, калі б не было БНР, то не было б і БССР і нават 25 ліпеня. Гэта аксіёма. Не хочуць зразумець яе толькі тыя, хто нідзе, акрамя ВПШ, не вучыўся.*

*Рэкамендую гімнам Беларусі верш М. Багдановіча «Пагоня» — твор, актуальны як сёння, так і на далёкую будучыню (музыка Міколы Куліковіча-Шчаглова). Спадзяюся, што мая прапанова будзе абмеркавана.*

*Радуе, што сярод дэпутатаў рознага ўзроўню, журналістаў, вучоных, інтэлігенцыі ёсць многа людзей, якія аддана працуюць на ніве адраджэння нашай Бацькаўшчыны. Веру ў поспех!*

**Я. ШУТ.**
г. Маладзечна.

### *Праверце дакладнасць афармлення абанемента*

Для афармлення падпіскі на газету ці часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, у адпаведнасці з умовамі, выкладзенымі ў каталогах «Саюздруку». Запаўненне месячных клетак пры пераадрасоўцы выдання, а таксама клеткі «ПВ-МЕСЦА» робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі і «Саюздруку».




На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны. Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце ставіцца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітком аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі)

*Кошт падпіскі на «Наша слова» на год — 5 руб. 28 кап., на 6 месяцаў — 2 руб. 64 кап., на 3 месяцы — 85 кап.*

# Створаны філолагамі

У Віцебску выкладчыкамі-філолагамі Вашчанка Н. І., Кірылавым М. Ф., Пашкоўскай М. А. створаны гуртук для педагогаў горада, якія жадаюць выкладаць біялогію, фізіку, хімію, алгебру і геаметрыю на беларускай мове. Асабліва плённа працаваў гуртук у час летніх канікул, даказаўшы, што і педагогам ніколі не позна вучыцца.

Сумеснымі намаганнямі гурткоўцаў рыхтуюцца тэрміналагічныя слоўнікі беларускай мовы, дзе знойдуць сваё месца біялагічная, фізічная, хімічная і матэматычная лексіка.

**Кастусь КАРНЯЛЮК.**
г. Віцебск.

# Наша спадчына

## ПАДПІСЧЫКІ — З ПАЧАТКОВАЙ ШКОЛЫ

Зацітава-Слабадская пачатковая школа Пухавіцкага раёна — «галоўная» і адзіная навучальная ўстанова на тэрыторыі калгаса імя Чапаева. Разумее гэта і настаўніца Алена Міхайлаўна Шчэрба. У школы цесная повязь з вяскоўцамі, калгасным клубам, Зацітава-Слабадской сельскай бібліятэкай. І, зразумелая справа, з бацькамі вучняў. Мусіць, гэта і паспрыяла цікавасці дзяцей і іх бацькоў да беларускай перыёдыкі.

Прыемна, што па-за ўвагай юных чытачоў Аксаны Парфёнак, Волі Шышко, Алёны Корань, Руслана Хруцкага і Віталя Шчэрбы не засталася і газета «Наша слова». Чытаць жа, канешне, школьнікі газету ТБМ імя Ф. Скарыны будуць сумесна з бацькамі.

А. К.



Ад дваццаці да сямідзесяці — узрост удзельнікаў фальклорна-этнаграфічнага ансамбля «Астранка» з вёскі Стары Дзедзін Клімавіцкага раёна. Аб'яднала гэтых людзей любоў да народнай песні. У рэпертуары калектыву — больш за сорак мелодый. Але далёка не вычарпана фальклорная крыніца: вёска ж Стары Дзедзін адзначыла нядаўна сваё тысячагоддзе. А таму — папаўняцца рэпертуару і далей.

На здымку: фальклорна-этнаграфічны ансамбль «Астранка».

Фота Валерыя ЛЯШКЕВІЧА (БЕЛТА).

## Лякарня чараўніцы Потахі

Расліны, якія ўжываюць пры хваробах мочапалавых органаў

Талакнянка. Лічыцца ў народзе, што ўсе хваробы нырак, мачавога пузыра, асабліва запаленне нырак, камяняў іх і мачавога пузыра, перш за ўсё пры крывавай мачы, немагчыма лячыць без лісця талакнянкі. Яе ж далучаюць да ўсіх сумесяў, якія ўжываюць пры лячэнні гэтых і многіх іншых хвароб, што выкліканы парушаным абменам матэрыі ў арганізме. Доза: ад 5—15 да 30 г на 150—250 да 500 г вады. Вараць 15 мінут, даюць адстаяцца 20 мінут, працэджваюць і п'юць па паўшклянкі 3 разы на дзень ці па 1 сталовай лыжцы праз кожную гадзіну.

*Не той сілён, хто здзержываець коней, а той, хто здзержываець самога сябе* (Насовіч)

Адвар з лісця талакнянкі прымаюць таксама пры «аслабелых» нервах, пры палюцыях і пры венерычных хваробах. У гэтых выпадках на 3 шклянкі сырой вады бяруць 1 сталовую лыжку з верхам лісця талакнянкі і вараць, пакуль не выпарыцца 1/3 вадкасці. Астатняе адцэджваюць і п'юць штодзённа па 2 шклянкі на дзень. Пры гэтым забараняюцца алкагольныя напіткі.

*Сон лепш усялякага зелля* (Сержпутоўскі)

Авёс пасяўны. Вядомы злак, які культывуецца. У лекавых мэтах народ ужывае крупы, муку і салому, пры гэтым крупы і мука з аўса прымяняюцца як дыетычны сродак, а салома — як лекавы.

*Калі адзін зяўнуў, то і ўсе пойдуць зяваць* (Насовіч)

Чай і адвар з аўсянай саломы ўжываюць у народзе як патагонны, ветрагонны сродак, адвар — пры вадзянцы жывата, якая ўзнікла пры хваробе нырак, і як гарачкапаніжальны. Для напару бяруць любую колькасць, для адвару 30—40 г аўсянай парэзанай саломы на 1 л вады.

Пры камянях нырак з насычанага адвару аўсянай саломы робяць гарачыя кампрэсы і прыпаркі на вобласць нырак як сродак, які разаграваe і пашырае матачнікі, аблягчае праходжанне камянёў.

Верас звычайны. Водны настой травы верасу 40 г на 1 л вады лічаць надзейным сродкам пры камянях нырак; ім карыстаюцца і пры вадзянцы.

*І смех, і грэх*

## Дзве смяшынкі Кандрата Лейкі

Толькі ў апошнія тры гады ўдалося знайсці і надрукаваць некалькі невядомых раней твораў літаратара са Слонімшчыны Кандрата Лейкі (1860—1921). Лёс ягоны склаўся так, што большую палову свайго жыцця (з-за хваробы ног) ён пражыў за межамі Беларусі. Але далёка ад радзімы Кандрат Лейка не забываў роднае мовы, пісаў і думаў на ёй, падтрымліваў сувязі з Гальяшам Леўчыкам, Янкам Купалам, Лявонам Дубяйкоўскім і іншымі дзеячамі беларускай культуры.

Перад самай смерцю ён падрыхтаваў да друку зборнік «Засеўкі» і паслаў яго ў Вільню. Аднак «рукапіс» згубіўся і не пабачыў свет.

Мне вельмі прыемна, што другі мой зямляк, Янка Саламевіч, зараз рыхтуе кніжачку твораў Кандрата Лейкі — таленавітага празаіка, дзіцячага драматурга і паэта.



Прапаную чытачам «Нашага слова» дзве смяшынкі Кандрата Лейкі, якія былі напісаны да 1886 года. Яны сёння друкуюцца ўпершыню.

Сяргей ЧЫГРЫН.

НА ЗДЫМКУ: Кандрат Лейка.

### ПАЙМАЛА І ПАЗНАЛА

Прыйшла кабета да старшыны на скаргу, што ноччу хлопцы абабралі яе садок.

— Пане дабрадзею,— казала яна, кланяючыся, старшыну,— прыгразі ты гэтым гіцлям, каб яны больш не крыўдзілі мяне, не траслі па начах маіх грушаў.

— А ты паймала хоць аднаго? — спытаў старшына.

— А як жа, мой дабрадзей, паймала і пазнала.

— Хто ж гэта, скажы, кабетка? — дапытваўся старшына.

— Альбо Тодар, альбо Марко, альбо хто,— быў адказ.

### НА СПОВЕДЗІ

Хлопчык пайшоў на споведзь да ксяндза. Ксёндз прызнаваў толькі польскую мову, а хлопчык гэтае мовы не разумеў. Ксёндз пытаецца:

— Яке ў цябе, хлопчэ, ест гжэхі?

— Бацьку, маці не слухаў, гаршчок адзін раз разбіў,— сказаў хлопчык і стаў успамінаць, што ён яшчэ кепскае зрабіў. Ксёндз, пачакаўшы трошкі, і пытаецца:

— А венцэй цо?

— І венцы*, пане ксёнджэ, разбіліся, — адказаў хлопчык.

* Венцы — закручына, якая робіцца зверху гаршка.

## АФАНАРЫЗМЫ

Куды ні кінь — усюды клан!

Не бойся маскі! Бойся, калі пад маскаю — маска.

Хочаце сапсаваць адносіны — пачынайце іх высвятляць.

Выхаваны чалавек не даводзе моду да крыку.

Лёгкая прамысловасць. А як цяжка перабудоўвацца.

Ці павінна дабро быць з кулакамі, калі гэта народнае дабро?

Скажы мне, хто я, і мне стане зразумела, хто ты.

Дырэктар-пачатковец прагліне крытыку, вопытны — крыўдзіцеля.

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі СССР
«Саюздрук»
АБАНЕМЕНТ на газету / часопіс 63865

«НАША СЛОВА» Колькасць кампліктаў

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды: (пашт. індэкс) (адрас)

Каму: прозвішча, ініцыялы

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ / месца / літ. на газету / часопіс 63865

«НАША СЛОВА»
(найменне выдання)

Кошт: падпіскі руб. кап.; перaадрасоўкі руб. кап.; Колькасць кампліктаў

на 199 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды: (пашт. індэкс) (адрас)

Каму: (прозвішча, ініцыялы)

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ
Рэдактар Эрнэст Ялугін.
Сябры калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.
Адказны сакратар Анатоль Сілянкоў.

Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак.
Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 5.058 паасобнікі. Зак. 2467. Індэкс 74975.